№. 1. Вільня, Нядзеля, 6 Сьнежня 1925 г. Год I.



# Сялянская Ніва

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
Вільня, Завальная вул. 7. — (Wilno, ulica Zawalna 7),

Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 6 гадзіны апрача сьвята.
Газэта выходзіць раз у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц 1 зл. Для заграніцы удвая даражэй.
Перамена адрэсу 30 гр.

Цана асобнага нумару 20 гр.

**Цана абвестак:**
на 1 старонцы 30 грошаў, на 2 і 3 — 25 грошаў і на 4 — 20 грошаў за радок дробнага друку ў ваднай палосцы. Жадаючыя іншых абвестак, павінны зьвярнуцца да Адміністрацыі.

**Орган Беларускага Сялянскага Саюзу.**

## Ад Рэдакцыі.

Выпускаем у сьвет новую беларускую газэту завём яе „Сялянская Ніва“. Ужо з гэтага назову лёгка дадумацца, якія нашы мэты і кірунак. Разясьнім гэта аднак бліжэй.

Выходзячыя ў Вільні беларускія газэты, паводле нас, не разьвіваюць беларускай думкі ў належнай шырыне і ў адпаведным кірунку. А дзеля гэтага яны не здаволіваюць духовых і эканамічных інтарэсаў беларускага грамадзянства і беларускага народу. І сапраўды.

Возьмем „Беларускую Ніву“. Гэта газэта, як дальшы працяг „Жыцьця Беларуса“ занадта аднабока ацэньвае беларускія інтарэсы і больш з пункту гледжаньня пролетарскага, як сялянскага.

„Biełar. Krynica“, маючы на мэце прадусім інтарэсы беларусаў каталікоў і друкуючыся лацінскімі літарамі, ужо гэтым самым працу сваю значна агранічвае.

„Грамадзкі Голас“ дзеля ўсім ведамага кірунку, над увагу цалком ня можа быць браны.

Тымчасам, бяручы над увагу, што беларускі народ па сваей будове соцыяльнай выключна сялянскі, што зацікаўленьне сярод яго сваім клясавым вызваленьнем і народным адраджэньнем углыбілася значна, і што сьведамасьць палітычная ўзрасла також нямала, зьяўляецца ясным, што трэба новай беларускай часопісі, якая-б была больш дапасавана да беларускіх інтарэсаў, як народна-культурных так і соцыяльных.

Такой газэтаў думае быць „Сялянская Ніва“ якая зьяўляецца органам нядаўна паўстаўшага „Беларускага Сялянскага Саюзу“. Газэта наша будзе распрацоўваць беларускую сялянскую ідэолёгію, будзе служыць справе арганізацыі беларускага сялянства, а також справе народнай культуры і сьведамасьці. Палітычным нашым ідэалам ёсьць імкненьне да таго, каб народ беларускі, стаўшы на ўласныя ногі, увайшоў у сямью народаў на усходзе Эўропы, як роўны з розным.

Дзеля нашай беларускай беднасьці будзем выдаваць нашу газэту сьпярша быць можа радзей як раз у тыдзень. Аднак спадзяёмся, што хутка здабудзем падпішчыкаў і прыяцеляў столькі, каб магчы выдаваць яе хоць раз у тыдзень.

Да супрацоўніцтва запрашаем беларускую сялянскую інтэлігенцыю, як краёвую, так і заграінчную, а також беларускіх сялян. Усіх запрашаем пісаць на тэмы палітычна-грамадзкія, літэратурныя, гаспадарчыя і іншыя.

Усе разам для свайго народу!...

## Падзел у Беларускім Пасольскім Клюбе.

Дзякуючы выбарнаму закону ў польскі Сойм 1922 г., які меў на мэце не дапусьціць у Сойм нацыянальных меньшасьцяў, Беларускі Віленскі Нацыянальны Камітэт, як установа агульна нацыянальная, куды ўваходзілі прадстаўнікі ўсіх беларускіх партыяў і арганізацыяў, пайшоў на выбары разам з другімі нацыянальнымі меншасьцямі ў Польшчы. Пасьля выбараў, усе белярускія паслы ўтварылі супольны клюб, праз увагу на тое, што мы беларусы знаходзімся ў такім палажэньні, у якім партыйна нам няма чаго дзяліць і што трэба супольна бараніць інтарэсы беларускага народу, як нацыянальныя, так культурныя і соцыяльныя.

Праўду сказаць і розніц паміж сябрамі Клюбу ня было, бо праграму гэтую праводзілі ў жыцьцё ўсе сябры Бел. Пас. Клюбу даволі згодна.

Праўда, з боку польскай левіцы, жадаючай разьбіць беларускую еднасьць, былі закіды, чаму ў Бел. Клюбе сядзяць разам і соцыялісты і не соцыялісты, радыкалы і нерадыкалы. Але на гэта быў адказ: калі польскія соцыялісты сядзяць у ваднымм Сойме з польскай правіцай, дык і беларускія паслы могуць належыць да аднаго Клюбу, ак да свайго роду невялічкага беларускага парлямэнту.

Як ведама, дамаганьні Бел. Пас. Клюбу ў 1922 г. зводзіліся да здабыцьця ў Польшчы шырокай тэрыторыяльнай аўтономіі для нашага краю, аб чым і заявіў з соймовой трыбуны тагочасны старшыня клюбу пас. Тарашкевіч у дэклярацыі пры адчыненьні Сойму.

Спробы паразуменьня з польскім урадам (падтрыманьне ўраду Сікорскага), каб даць магчымасьць беларускаму народу атрымаць некаторыя жыцьцёвыя палёгкі, не апраўдаліся.

Бел. Пас. Клюб аднагалосна пастанавіў вясной 1923 г, перайсьці да апазыцыі і 1924 г. зрокся ідэі аўтономіі і стаў на грунт прынцыповы, на грунт думкі Вільсона аб самаазначэньні народаў, што было заяўлена з соймавай трыбуны і што також разнагалосіцы ў Бел. Клюбе ня выклікала. Прадстаўнікоў у Клюбе розных кірункаў лучыла адна ідэя нацыянальная, а також і тое, што супольнымі сіламі лягчэй змагацца.

Ды-й што гаварыць, што супольным фронтам ісьці усёж лягчэй! Так паступалі і паступаюць і іншыя народносьці, будучы ў падобных, як і мы варунках. Успомнім Польскае Кола ў Расейскай Дзяржаўнай Думе, Нямецкае Аб'яднаньне і Жыдоўскае Кола ў сучасным сойме польскім.

Вось-жа ўважаем, што і беларусам трэ' было трымацца разам, дапускаючы хіба толькі ў нутры Клюбу фракцыі, або такія, ці іншыя групы.

Аднак, настаў час, калі некаторыя сябры Клюбу ўтварылі новы Клюб пад назовай „Беларуская Сялянска - Работніцкая Грамада“. Праўда, зрабіць так, гэта-іх права, але мы ўважаем, што гэта не на карысьць беларускаму селяніну, бо „Грамада“, як гэта відаць з самой назовы, бяручы на сябе абарону інтарэсаў сялян і фабрычных рабочых, сярод якіх (рабочых) беларусаў ёсьць надта нямнога, паводле нашай думкі, ня зможа належна бараніць ані адных, ані другіх. У значнай меры, інтарэсы фабрычных рабочых і сялян нятолькі што між сабой розьняцца, але часта і пярэчаць адны адным.

Пасол Тарашкевіч у гутарцы з адным карэспандэнтам заявіў, што пакінуўшых Клюб паслоў розьніць з рэштай Клюбу быццам тое, што Клюб стаіць і да сяньняшняга дня пры сваей старой праграме—пры аўтономіі, і што выбыўшых паслоў і рэшту Клюба розьніць також замельнае пытаньне, бо Клюб не галасавай у Сойме за 30 гэктарай і не падпісаў прапазыцыю комуністаў у той-жа зямельнай справе.

Дык мусімо тут разьясьніць, як з гэтым усім было сапраўды:

1. Пасол Рагуля, будучы старшынёй 1924 г. ад імя ўсяго Бел. Клюбу ў Сойме зрабіў заяву, што Клюб стаіць за самаазначэньне народаў.

2. Праўда, што Бел. Пас. Клюб. стаіць у Сойме за тое, каб абшарнікам пакінуць зямлі ня 30 гэктараў, як прапанавалі камуністы, а толькі 20, што ўважаў ён больш карысным для беларускага селяніна.

3. Праўдай також ёсьць, што Бел. Пас. Клюб, маючы сваю ўласную праграму палітычную і соцыяльную, камуністычнай дэклярацыі ў справе зямельнай рэформы не падпісаў.

Цяпер, калі агульна-беларускі фронт нашы таварышы разьбілі і яго аслабілі, шукаючы новых дарог дзеля далейшай абароны беларускага народу, у нутры Бел. Пас. Клюбу ніжэйпадпісаныя заснавалі сялянскую групу, як зачатак арганізацыі „Бел. Сялянскага Саюзу“. На падставе вышэйсказанага, мы прадстаўнікі „Бел. Сял. Саюзу“ гэтым сьцьвярджаем: 1) што разьбіўшы супольны беларускі фронт, 2) і ўвайшоўшы ў блізкую лучнасьць з польскай „Niezależnaj Partyjaj Chłopskaj“, якая па сваей ідэолёгіі мала што супольнае мае з беларускім сялянствам і якая з гэтай прычыны сваей сярод гэтагаж сялянства працай, фактычна толькі баламуціць яго, — нашы таварышы, паводле нашага пагляду, зрабілі палітычную памылку, якая можа некарысна адбіцца на інтарэсах беларускага народу.

Пры гэтым сьцьвярджаем також, што мы нічога процiў „Chłopskiej Partyi Niezależnej“ ня меліб, калі-б яна вяла сваю працу на тэрыторыі этнографічна польскай, а не на беларускай.

Наканец заяўляем, што мы прадстаўнікі Беларускага Сялянскага Саюзу покульшто застаемся у Беларускім Пасольскім Клюбе, як фракцыя і што галоўнай мэтай нашага саюзу ёсьць арганізаваць беларускае сялянства дзеля яго нацыянальнага і соцыяльнага вызваленьня, а також дзеля кіраваньня яго на ўласную беларускую дарогу.

Пасол *Рагуля.*

Пасол *Ф. Ярэміч.*

Варшава,
10/XI—25.

ходзіцца на душу $1^1/_2$ дзесяціны зямлі годнае пад арбу і сенажаці.

Паўстае новае пытаньне. Як-жа зямля павінна перайсьці сялянам? За выкуп, ці бяз выкупу? На гэта мы маем адзін адказ, які давалі і з Соймавай трыбуны. Аб жадным выкупе ня можа быць і мовы.

На гэтакі пераход зямлі сяляне маюць усе правы. І сапраўды. Зямля ня ёсьць тавар, зроблены людзкімі рукамі. Яна ёсьць уласнасьць усяго народу. Гэта мы можам сказаць аб зямлі нявырабленай, як і аб вырабленай. Бо ці-ж ня праўда, што ўся і аромая зямля і сенажаці выраблены не рукамі князёў, ці графоў, а рукамі сялянства падчас паншчыны? Гэтая зямліца, гэта—пот і кроў мужыка, які сотні гадоў працаваў на паноў. Надышоў час направіць крыўду, зробленую сялянству..

Чым, як не рабаваньнем сялянства на карысьць паноў можна назваць зямельную рэформу, зьвязаную са скасаваньнем паншчыны?

Калі гасударству пагражаў вораг, тады бараніць яго павінны былі сяляне. Сялянскія галовы, як капуста пад сякерай, клаліся на абарону „бацькаўшчыны". А калі прышоў час скасаваць паншчыну, дык сялян змусілі сваю зямлю выкупляць ад памешчыкаў. Гэтым самым селяніну як бы сказалі: у цябе бацькаўшчыны няма, купляй яе ў пана. І яго змусілі купіць і за дарагую цану. За ўсю надзеленую зямлю сялянства бышай царскай Расеі павінна было заплаціць паном 800 мільёнаў рублёў. А з яго садралі 1500 мільёнаў, амаль што ня ў два разы болей, як трэба было. Бог ведае, як доўга яшчэ плаціла-бы сялянства, каб не рэвалюцыя 1905 г., якая кончыла гэты выкуп!

Сялянства і яго паслы ў Сойме павінны сказаць: мы памятаемо адзін выкуп, другога ня хочамо.

Што зямлю трэба і можна ўзяць бяз выкупу, мы бачымо на прыкладзе Эстоніі, Латвіі і інш., дзе гэтак ужо зроблена.

Паўстае яшчэ і другое пытаньне: калі зямлю забраць, то як яе дзяліць? Ці даваць усякаму столькі, колькі ён захоча, ці ўстанавіць тую, ці іншую норму. Ясна, што патрэбна норма. Каліб у нас было столькі зямлі, сколькі яе ёсьць у Сібіры, тады ўсякаму, хто захацеўбы працаваць на ей, можна былоб даць столькі, сколькі хто хоча. Але ў нас ня Сібір, а Беларусь. У нас людзей шмат, а зямлі мала і дзеля гэтага павінна быць норма, больш якой ніхто не павінен мець. Паводле нашага пераконаньня, зямлі трэба даць столькі, сколькі хто можа абрабіць.

Калі гэтак зрабіць зямельную рэформу, дык ня будзе спэкуляцыі зямлёю.

Ня будзе таго, што робіцца цяпер, калі багаты чалавек купляе вялікі маёнтак і перапрадае яго сялянам па надта высокай цане, бяручы часамі больш як па 200 даляраў за дзесяціну.

Толькі радыкальная зямельная рэформа дасьць магчымасьць і нават беднаму селяніну скарыстаць сваю і сваіх дзяцей працу, замест аддаваць яе багатаму памешчыку, ці спэкулянту перакупшчыку. На гэтакай плятформе стаіць Беларускі Сялянскі Саюз і толькі гэтакай рэформы ён дабіваецца ў польскім Сойме. Аб тым, як выглядае зямельнае пытаньне ў Сойме і якой зямельнай рэформы дабіваемся мы на Соймавай трыбуне, будзе напісана ў наступным нумары.

Пасол Сойму
**В. Рагуля.**

## Часовы Выканаучы Камітэт Беларускага Сялянскага Саюзу.

Ініцыятыўная група Бел. Сял. Саюзу кіраўніцтва справамі Саюзу даручыла Часоваму Выканаўчаму Камітэту. Гэты Камітэт завецца часовы, бо яго мае замяніць Урад Саюзу, выбраны на нарадзе прадстаўнікоў ад Беларускага Сялянства з усіх куткоў Беларусі пад Польшчай на аснове Статуту Беларускага Сялянскага Саюзу.

У склад Часовага Выканаўчага Камітэту ўходзяць:

1. В. Рагуля, пасол Сойму.
2. Ф. Ярэміч, „ „
3. І. Пачопка, Рэдактар газэты „Праваслаўны Беларус".
4. І. Куніцкі, беларускі народны дзеяч з Наваградчыны.
5. А. Більдзюкевіч, Сэкрэтар Беларускага Пасольскага Клюбу.

## Кахаю Беларусь...

Кахаю Беларусь сучасную — ня высьнену
Сялянскім сэрцам, ратая душой.
Кахаю творчым дзелам, а ня мысьлена.
Кладу падмур мазольнаю рукой.

Кахаю радасным каханьнем будаўнічага,
Што кінуў цераз пропасьць мост—праход.
Кахаю гордасьцяй я пагляду мужычага
На свой аруд, дзе зьверхам умалот.

Кахаю моцай, блескам току электрычнага,
Што сонцам—чарам апраменіць край,
Калі і паляшук задзівіць энэргічнасьцяй
І загрыміць з пагрозай: не чапай!

Кахаю палкасьцяй агонь—каня сталёвага,
Што нетрам і аблогам дзень і ноч
Развозіць творчы рух, жыцьцё адумысловае,
Наперад, напралом імчыць наўскоч.

Кахаю дзействам спорным я нутра фабрычнага —
Машынаў дабрадзеек сакатух.
І ня люблю мацней узрыва вулканічнага
Я Беларусь, як служку розных слуг.

**Алёна.**

## Якая доля работнікаў у Францыі?

Дзякуючы тэй безрабоціцы, якая цяпер пануе ў Польшчы, шмат нашых сялян выяжджае на заработкі ў Францыю. Па ўсей Беларусі езьдзяць розныя агенты і намаўляюць да выезду, кажучы, што ў Францыі вялікія заработкі і жыцьцё добрае—словам, рай. Дзівіцца нас толькі, чаму гэта ніхто з бліжэйшых работнікаў ня горнецца да таго раю, але агент едзе шукаць іх аж да нас?

Мусіць ёсьць нейкія прычыны, каторыя прымушаюць агентаў ехаць аж у наш край! Так яно і ёсьць—і дзеля таго мы разгледзім усе тыя варункі, якія чакаюць на нашых работнікаў і якое там іхняе палажэньне.

Варункі ня надта добрыя. Гледзячы на сумы франкаў (франкамі завуцца францускія грошы), дык здаецца, што многа, але трэба ведаць, што франк цяпер куды ніжэй за польскага злота. Злот цяпер апаў у ніз, а франк яшчэ балей, так што за 100 франкаў даюць толькі 27 злотых! Ну, а 27 зл. будзе нешта 3 з паловай даляры. Дык відзім, што францускія франкі, як грошы, маюць надта малую вартасьць—і дзеля таго заработак, плачаны франкамі, прыносіць для работніка мала карысьці.

Палажэньне работнікаў там таксама не асаблівае. Заняты яны найбалей на палявых работах, або пры адбудове зруйнаваных вайною меснасьцяў. Жывуць у бараках, часта халодных, яда таксама паганая, апекі няма ніякай, гаспадары ўважаюць такіх кантрактовых рабочых проста за рабочую скаціну, тым балей, што гэтыя рабочыя запраўды ня могуць дахадзіць сваіх правоў, бо знаходзяцца ў чужой старане і ня знаюць мовы...

Асабліва-ж дрэннае палажэньне дзяўчат, каторыя туды едуць. Жывуць яны таксама ў бараках, без ніякага дагляду, дык няма дзіва, што распуста шырыцца аж страх. А за распустай ідуць розныя хваробы (францускія), так-што можна сказаць з пэўнасьцяй, што па нейкім часе кожная дзяўчына дастане гэтай хваробы. Ня можна дапусьціць, каб нашыя беларускія дзяўчаткі ехалі на такую загубу. Апроч таго трэба ведаць, што тыя работнікі і работніцы могуць вярнуцца дамоў і прывязуць з сабою тыя хваробы ў наш край.

Дык тыя, каторыя маняцца ехаць на работы ў Францыю, няхай добра абдумаюць усё, пакуль адважацца на такія злыбеды. З мужчын няхай едзе той, каму проста няма куды дзецца ў сваей старане, а з дзяўчат ніводная хай ня едзе, бо доля іх там будзе нешчаслівая.

Бацькі і ўсе, ад каго гэты выезд залежыць павінны аб гэтым добра помніць.

**Г—скі.**

## З Радавай Беларусі.

**З'езд беларускіх паэтаў.** 28 лістапада ў Менску начаўся з'езд таварыства беларускіх паэтаў „Маладняк". На з'езд прыехала каля 100 чалавек. Старшынёй з'езду выбраны вядомы беларускі паэт Янка Купала.

**Паварот беларускіх эмігрантаў.** Польскае ўрадавае тэлеграфнае агенства ПАТ паведамляе, што на падставе амнэстыі для палітычных эмігрантаў у Радавай Беларусі варочаюцца ў Менск: з Чэхаславакіі—б. старшыня Рады Рэспублікі Крэчэўскі і б. міністры Захарка і Заяц, з Амэрыкі — б. міністар БНР і міністар беларускіх спраў у Літве Воронка, з Коўны— б. старшыня рады міністраў БНР Цьвікевіч і б. беларускі консул у Коўні Валькевіч і інш.

**У літэратурнай сэкцыі.** Літэратурная сэкцыя Інбелкульту ў сучасны момант занята падрыхтоўкай да выданьня твораў беларускіх пісьменьнікаў.

У першую чаргу намечаны да выданьня творы Максіма Багдановіча, Алеся Гаруна, Цёткі і інш:

Робяцца захады, каб сабраць розныя творы Максіма Багдановіча, расьцярушаныя па розных пэрыядычных выданьнях.

Дзякуючы разбору рукапісаў, лік вершаў павялічыўся ўдвойчы — замест 150 вершаў ёсьць намер выдаць 300 вершаў. Апроч гэтага, сабраны артыкулы Багдановіча па розных пытаньнях.

Сабраны матар'ял будзе выданы ў 3-х томах.

**Выданьне часопісі „Наш Край".** У Менску вышаў першы нумар часопісі „Наш Край", орган Цэнтр. Бюро Краязнаўства пры Інбелкульце.

Часопісь гэта будзе выходзіць штомесячна.

## Беларусы за граніцай.

### Бюлетэнь загранічнай групы беларускай партыі соцыялістаў-рэволюцыянэраў.

Пад гэткім загалоўкам вышаў у сьвет на правах рукапісі, адбіты на гэктаграфе, бюлетэнь № 1 нашых рэволюцыянэраў, што знаходзяцца цяпер у Празе.

Зьмест Бюлетэня гэткі:

1. Мэты і заданьні.
2. З жыцьця партыі. — У Радавай Беларусі. — Пад Польшчай.
3. Міжнародны рэвалюцыйны рух.
4. З жыцьця сяброўскіх партый. — Літва.
5. Агляд беларускай прэсы. — Хто з кім і проці каго? — Загаманілі.
6. З жыцьця беларускай эміграцыі. — Пагоня за мёртвымі душамі. — Прыезд беларускіх песьняроў у Прагу. — З жыцьця беларускага студенства ў Празе. — Цяжкая хвароба т. Бадуновай.

Трэба адзначыць, што зьмест гэты даволі паважны і поўны патрыотычнага незалежніцкага беларускага пачуцьця.

### Беларусы на міжнародным зьезьдзе меншасьцяў у Жэнэве.

У палавіне кастрычніка месяца ў Жэнэве (Швайцарыя) адбыўся міжнародны зьезд нацыянальных меншасьцяў. На зьезд гэты ад беларусаў езьдзіў пасол Ярэміч, які меў там прамову аб палажэньні беларусаў у Польшчы і разам з украінцамі і літоўцамі ўнес прапазыцыю аб прызнаньні народным маньшасьцям права на самаазначэньне. Справы гэтай зьезд яшчэ аканчальна ня вырашыў.

## З Польшчы

**Спадак злотага.** Астатнім часам напаў нейкі перапалох на злотага і ён начаў сільна падаць. Даходзіла да таго, што ў мінулым тыдні за даляр плацілі 12 зл. Цяпер спадак злотага стрымаўся, хоць і цяпер за доляр плацяць больш-менш 8 зл.

**Ашчаднасьці.** Мін. Фінансаў Здзехоўскі прыступіў да зменшаньня дзяржаўных выдаткаў. Дзеля гэтага будзе многа звольнена з пасады ўрадоўцаў. Пляны свае, што да палепшаньня фінансаў, мін. Здзехоўскі прадставіць у Сойме 9 сьнежня.

## З Заграніцы.

### Вынік выбараў у Чехаславаччыне.

Агалошаны аканчальны вынік выбараў у Чехаславаччыне дн. 15/XI с. г.

Устаноўлены аканчальны падзел мандатаў між паасобнымі партыямі.

Склад пражскага сойму будзе гэткі: рэспубліканцы правялі 45 паслоў, камуністы — 41, чэшскія каталікі — 31, сацыял-дэмакраты—29, сацыялісты—28, нямецкі сялянскі саюз—24, славацкія каталікі — 26, (Глінка) — 23, ням. сацыял-дэмакр. — 17, чэшскія нац.-дэм.—13, чэшск. партыя рамесьл. і прам. — 13, нямецкая хрысьціянская суспольнасьць — 13, ням. нац. партыя — 10, ням. нац. сацыял. — 7, мадзяр. хрысьць. суспольнасьць—4, аўт. земляр. саюз на Закарпацьці—1, польскі саюз — 1. Разам 300 мандатаў.

Склад сэнату будзе гэткі: рэспубліканцаў — 23, камуністаў — 20, чэшс. катал. — 16, сац.-дэм.—14, сацыял.—14, ням. сял. саюз—12, славац. катал.—12,

ням. сац.-дэм.—9, чэшск. нац. дэмок.—7, ням. хрісьц. суспол.—7, партыя рамесьл. і прам. — 6, ням. нац. парт. — 5, ням. нац. сац.—3, мадзяр. хрысьць. суспол.—2. Разам 150 мандатаў.

### Рэвалюцыя ў Эгіпце.

Газэты даносяць, што ў Эгіпце насьпяваюць важныя падзеі. Зуглюль-паша, прэм'ер і правадыр эгіпскіх нацыяналістаў, заявіў, што рэвалюцыя ў Эгіпце будзе непэўна, калі народ і надалей будзе пазбаўлены вольнасьці і канстытуцыйных правоў.

Ускорасьці гэта справа вырашыцца, бо паміма забароны з боку Англіі, мае сабрацца на нараду Эгіпскі парлямэнт. Зуглюль-паша выдаў адозву, у якой успакойвае народ і радзіць чакаць і глядзець, што пачне Англія. Ён заяўляе, што Эгіпт прыступе да Лігі Народаў толькі тады, як будзе прызнана поўная незалежасьць Эгіпту ад Англіі.

### Рэвалюцыя ў Кітаі.

З Лёндану даносяць, што у Мукдэне аб'яўлена ваеннае палажэньне. Паўстанчага войска налічаецца да 100.000, якое вядзе змаганьне з Чанг-Тсо-Лінам—генэралам, які мае паддзержку з боку эўрапэйцаў і Японіі.

Кіруе паўстаньнем проці яго ген. Фэнг, які цяпер ёсьць наймагутнейшым у Кітаі. Лічацца з магчымасьцю, што цэнтральны ўрад ўступіць.

### Чычэрын езьдзе.

Газэты пішуць, што Чычэрын адведаў Брііанд'а Гэріот'а, Пэнлеве і іншых француcкіх палітыкаў. З Парыжа мае паехаць у Лёндын. Францускія газэты пішуць, што Чычэрын стараецца парожніць заходвія дзяржавы ў справе абароны азіяцкіх інтарэсаў. З гэтай мэтай прапануе францускаму ўраду ўзаемную забяспеку, якая далаб магчымасьць, у пэўнай меры, паралізаваць ангельскія ўплывы у Эўропе, а так-жа не дапусьціць да некаторых грозных для Францыі скуткаў, выцякаючых з Лёкарнскіх трактатаў.

### Непаразуменьне за Мосуль.

Турэцкі ўрад пастанавіў не прызнаць вырашэньня справы Мосулю праз Лігу Народаў, каліб яно было ў супярэчнасьці з інтарэсамі краю. Мін. загр. спраў Турцыі Нуні выяжджае з адпаведнымі інструкцыямі ў Жанэву.

### Палажэньне ў Сырыі.

Нямэцкія газэты пішуць, што Друзы мелі выслаць дэлегацыю ў Ангору з просьбай, каб Турцыя ўзяла Сырыю пад сваю апеку.

Ангельскія газэты пішуць, што францускі камісар у Сырыі Ювэнэль, вядзе перагаворы з павадыром Сырыйскіх нацыяналістаў.

Неафіцыяльныя сырыйскія прадстаўнікі вядуць перагаворы з францускімі палітыкамі ў Швайцарыі. Яны дамагаюцца поўнае незалежнасьці Сырыі і саюзу з Францыяй. Францыя маглаб мець ваенную апору для караблёў у Байруце і ваенны гарнізон у Лібані. На выпадак вайны Сырыйцы абавязуюцца даць войска для Францыі. Сырыя дамагаецца стаць сябрам Лігі Народаў.

### Сярэбраныя грошы ў Літве.

Астатнім часам Літоўскі дзяржаўны банк пусьціў у ход першыя сярэбраныя грошы на 1—2—5 літаў. На манэтах з аднаго боку ёсьць гэрб дзяржавы, а з другога цыфра папісаная літарамі.

**Падпісаньне лёкарнэнскіх пастановаў.** Нядаўна, як помнім, галоўныя дзяржавы Эўропы, зьехаўшыся ў Лёкарно у Швайцарыі многа што пастанавілі ў справе забяспечаньня ад вайны. Пастановы гэтыя праз тыя-ж дзяржавы у мінулым тыдні падпісаны ў Лёндане.

## Пісьма з вёскі.

### Беларускасьць паліцыі вочы коліць.

**Барадзенічы**, Дзісьненскага пав. Вёска наша крэпка беларуская. Тут ад старога да малога ўсе за беларускасьць аж зямлю дзеруць. Нямала ў беларускасьці падкрапляець наш Валодзька Бэйнаровіч. Ён—хадзячая беларуская сьведамасьць. Сколька ён умеець на памяць беларускіх вершаў, а казак—дык і ў кнізе ня спісаць! Люба паслухаць і вечар правясьці з гэтакім хлопцам! Ён кругом слывець у нас, як здольны беларускі дудар. Знаюць яго ў Мёрах, у Друі і па іншых мейсцах. Спаткаўшыся з ім многа, многа чаго добрага пачуе ад яго наш забіты сярмяжнік.

Вось гэты Валодзька Бэйнаровіч закалоў у вочы Ёдскай паліцыі. Цэлая справа вывярнулася проціў гэтага хлопца. Нядаўна паліцыя ў Барадзенічах дапрашавала многа каго, а ўсё проціў В. Бэйнаровіча. Маладзёж нашу ў гэтым найбольш турбавалі. Дзяўчаты дык паліцыянтаў прысьмешкамі збывалі. Дык мусіць ад нас паліцыянты нічога не дабіліся. Але гэтыя следствы паліцыі на Барадзеніцкіх беларусаў зрабілі досыць прыкрае ўражаньне. Хлопец Валодзька Бэйнаровіч Богу душу вінен, ніколі, нікому, нічога, а проціў яго аж цэлае сьледства. Мы не спадзяваліся, каб за звычайныя гульні, жарты на вечарынах, на якіх часамі вядуцца апавяданьня і дэклямуюцца беларускія вершы, наводзіліся аж цэлая паліцэйскія сьледствы.

Пасьля ўсяго гэтага мы будзем яшчэ крапчэйшыя беларусы, але ўжо работу сваю весьці з патайка будзем, каб з паліцыяй не спатыкацца.

**Валодзькаў сябра.**

## ХРОНІКА.

— **Справа рэд. Туронка.** 30 лістапада віленскі акружны суд разглядаў ажно сем прэсавых спраў рэдактара часопісі „Krynica“ Туронка абвінавачавалі з арт. 129, 263 і 298 К. К. за зьмешчаныя ў часопісі стацьці. Бараніў грам. Туронка адвакат В. Родзевіч.

На пачатку расправы мела месца характэрнае здарэньне. Сьведкі беларусы — пас. Ярэміч, дырэктар Астроўскі і інш. — патрэбавалі, каб суд прывёў іх да прысягі ў роднай ім беларускай мове. Пасьля 15-мінутнае нарады суд ім у гэтым адмовіў. З прычыны нязгоднасьці іх прысягаць „папольску, суд звольніў усіх гэтых сьведкаў (у тым ліку некалькі сялян) ад царкоўнае прысягі, узяўшы толькі слова ў іх, што будуць казаць праўду.

У выніку расправы суд адкінуў абвінавачаньне паводле 129 арт., а па другім засудзіў рэд. Туронка агулам на 2 месяцы вастрогу, зачыніўшы часопіс „Krynica“ назаўсёды.

Рэд. Туронак падае апэляцыйную скаргу на гэты прысуд.

— **Пратэст Літоўскага камітэту.** 24 лістапада Літоўскі Камітэт апублікаваў пратэст проці перашкодаў у літоўскай асьветнай працы, стаўленных з боку польскае улады.

— **Уціск прэсы.** Дня 28 лістап. па загаду Кам. Ур. на м. Вільню была сканфіскавана літоўская газэта „Vilniaus Aidas“ № 115 за надрукаваньне адозвы, выданай у Коўні пад заг. „Незалежная Літва сьваткуе ўгодкі вялікага віленскага сойму“, прызываючай да складаньня ахвяр на асвабадженьне Вільні.

— Дня 29 лістапада, тэйжа ўладай, сканфіскаваны № 10 „Biel. Krynicy“ за надрукаваньне апавяданьня „Царква“.

— **Забарона высылкі грошы ў звычайных пісьмах.** Згодна з апошнім распараджэньнем мін. промыслу і гандлю, забаронена пасыланьне ў звычайных пісьмах (не заказных) звонкай манэты, банковых білетаў і наагул усялякае каштоўнасьці.

Высылаючыя грошы, або цэннасьці ў пісьмах, пасьля гэтага распараджэньня, трацяць права і магчымасьць старацца звароту страты, каліб яны згінулі.

— **Забяспечаньне цэнных перасылак.** У зьвязку са здараючыміся яшчэ пакражамі і рабункамі цэнных пасылак на некаторых поштах, паштовая ўлада выдала ў гэтай справе ўрадам і агенцыям паштовым спэцыяльнае распараджэньне, ускладаючае большую адказнасьць на абслугу, за паверныя пошце цэнныя перасылкі.

— **Безрабоцьце.** На 1 снежня ў Дзярж. Урад. Пасрэдніцтва Працы—зарэгістравана агулам 2341 безработных асоб.

За прошлы месяц лік безработных павялічыўся значна. Безрабоцьце павялічылася з прычыны рэдукцыі і ліквідацыі прадпрыемстваў.

**Першы нумар „Сялянскай Нівы“ пасылаем на пробу. Усіх, яго атрымаўшых, просім паведаміць нас:**

**1) Ці Вы газэту нашу выпішыце і калі;**

**2) Калі выпішыце, дык зрабеце гэта якнайхутчэй;**

**3) Пазнаёміўшыся з нашай газэтай, напішыце нам, ці яна Вам падабалася і чаму;**

**4) Просім урэшце ўсіх сваіх падпішчыкаў і прыхільнікаў аб усім цікавым пісаць у „Сялянскую Ніву“.**

**РЭДАКЦЫЯ.**











Рэдактар-Выдавец: **Ст. Вольскі.** Друкарня **Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая вул. № 22.